БІБЛІОТЭКА ШКОЛЬНІКА.

Б. ЖЫТКОЎ.

# Пра малпачку.



Вільня — — — — — — 1933 г.
Выданьне Таварыства Беларускае Асьветы.



Мне было толькі дванаццаць год, і я вучыўся ў школе. Адзін раз падышоў да мяне ў часе перапынку мой таварыш Аўхіменка ды кажа:

— Мо' хочаш малпачку, то я дам табе.

Я не паверыў, бо думаў, што ён зьбіраецца падстроіць мне якую-небудзь штуку, што аж зоры з вачэй пасыплюцца, а потым скажа — вось гэта і ёсьць «малпачка». Я ведаў, што ён на гэта спрытны. Але мяне не ашукаеш!

Добра, кажу, адчапіся: ведаю я цябе!

— Ды не, кажа, я не маню. Сапраўдную жывую малпачку. А каб ты

ведаў, якая яна прыгожанькая! Завуць яе Яшка. Толькі вось бяда: тата мой сярдуе.

— На каго?

— На мяне і на Яшу. Прыбяры ты, кажа, яго куды хочаш. Я і надумаў, што лепш за ўсё аддаць табе.

Пасьля лекцый мы пайшлі да яго. Я ўсё яшчэ ня верыў, што ў мяне будзе жывая малпачка. Усю дарогу я распытваў, якая яна. А Яўхіменка нічога ня хацеў сказаць, а толькі:

— Вось убачыш сам, ня бойся, яна маленькая.

Сапраўды, малпачка была зусім маленькая: калі стане на заднія лапкі, дык ня больш поўаршына. Мордачка яе была зморшчаная, як у старое бабулькі, а вочкі жвавыя, бліскучыя. Шэрсьць на ёй рыжая, а лапкі чорныя. Здавалася, што гэта чалавечыя рукі ў чорных рукавічках. На ёй была сіняя камізелька.

Яўхіменка закрычаў:

Яшка, Яшка, ідзі сюды, я нешта дам!

І ён сунуў руку ў кішэню. Малпачка піснула: «ай, ай». І ня зглядзілі мы, як яна падскочыла і апынулася на руках Яўхіменкі. Той зараз-жа запхнуў яе за пазуху.

— Хадзем, — сказаў ён.

Па дарозе Яўхіменка ўсё навучаў мяне, чым карміць малпачку:

— Усё ёсьць, усё можна даваць. Асабліва любіць салодкае. За цукеркамі ганяецца — бяда: дарвецца — абавязкава аб'есца. Гарбату любіць слабенькую і толькі засалоджаную. Дык ты давай ёй гарбату ў накладку — два кавалкі кладзі ў шклянку. У прыкуску не давай, бо цукар зьесьць, а гарбаты піць ня будзе.

Я ўсё слухаў і думаў: я ёй і трох кавалкаў не пашкадую, гэтай прыго-

жанькай лялечцы. Тут я ўспомніў, што ў яе хваста няма.

— А дзе-ж яе хвост, — кажу, — ты, мабыць, адрэзаў яго?

— Гэта-ж макака, — кажа Яўхіменка, — у іх хвасты і не растуць.

Прышлі мы да нас. Мама і сястрычкі мае якраз абедалі. Мы з Яўхіменкам увайшлі проста ў пакой, не распрануўшыся нават.

Я адразу весела крыкнуў:

Усе азірнуліся на мяне. Яўхіменка расшпіліў пальто. І не пасьпеў ніхто нічога разгледзець, як Яшка скокнуў ад Яўхіменкі на маміну галаву, а з галавы на шафу. Усю зачоску маміну ўскалмаціў.

Усе перапужаліся, паўскаквалі і закрычалі.

— Ой. што гэта? Што гэта?

А Яша сеў на шафе і крыўляецца, чвякае зубамі ды высკаляецца. Яўхіменка спужаўся, што на яго будуць

крычаць і шмыгнуў у дзьверы. Але на яго ніхто не зьвярнуў увагі: усе глядзелі на малпачку.

Раптам дзяўчаткі закрычалі:

— Якая-ж яна харошанькая!

Мама папраўляла сваю зачоску.

— Дзе ты яе ўзяў?—пытае яна.

Я азірнуўся, але Яўхіменкі ўжо ня было. Ну, значыць, цяпер я ўжо сапраўдны гаспадар малпачкі. І захацеў я паказаць, што ведаю, як трэба абхадзіцца з ёю. Я сунуў руку ў кішэню і крыкнуў, як і Яўхіменка.

— Яшка, Яшка, ідзі сюды, я нешта дам!

Усе чакалі, што будзе. А Яшка і ня зірнуў у мой бок, а пачаў чухацца чорнаю лапкаю.

Да самага вечара баяўся Яшка спусьціцца на падлогу; ён усё скакаў уверсе: з шафы на дзьверы, з дзьвярэй на шафу, а адтуль на печ.

Увечары бацька сказаў:

— На нач яе пакідаць так нельга, бо яна ўсю хату пераверне дагары.

Я пачаў лавіць Яшу. Але вышла бяда: я да шафы, а ён на печ. Я яго адтуль шчоткаю, а ён скокнуў на гадзіньнік. Гадзіньнік пахіснуўся і стаў. А Яша ўжо гойдаўся на фіранцы. З фіранкі пераляцеў на карціну. Карціна захісталася, і я баяўся, што Яша кінецца на вісячую лямпу,

Гэты гармідар пачуў бацька.

— Малпы ня могуць злавіць, — з усьмешкаю сказаў ён, але і сам ня мог даць рады.

Скора сабралася ўся наша сямья, і пачалі ганяцца за Яшам. Кідалі ў яго мячыкам, шпулькамі, сернікамі і, урэшцэ, прыперлі ў куток.

Яшка і тут не здаваўся, ён прыпёрся задам да сьцяны, ашчэрыўся, стаў ляпаць зубамі — спужаць хацеў. Але на яго накінулі хустку, закруцілі і закуталі ёю.

Яшка крычаў, тузаўся, усё прабаваў вырвацца, але хутка яго абкруцілі так, што відаць было толькі адна галава. Ён цяпер круціў галавою, міргаў вачыма, і здавалася, што ён зараз заплача ад крыўды.

Надаела нам спавіваць малпачку кожны раз на нач. Бацька і кажа:

— Прывязаць. За камізэльку і да ножкі стала. Я прынёс вяроўку, абмацаў у Яшы на сьпіне гузік, працягнуў вяроўку ў пятлю і моцна завязаў. А камізэлька ў Яшы зашпілялася трыма гузікамі. Потым я паднёс закутанага Яшу да стала, прывязаў вяроўку да ножкі і тады зьняў хустку.

Эх, як пачаў-жа ён скакаць!.. Але парваць вяроўку ў яго не хапала сілы. Ён пакрычаў, пазлаваўся і панура сеў на падлозе.

Я захацеў разьвесяліць яго; дастаў з шафы кавалак цукру і даў Яшы. Ён схапіў чорнаю лапкаю цукар і хутка

запхнуў за шчаку. Ад гэтага мордачка яго вельмі сьмешна скрывілася.

Злосьць яго, відаць, прайшла, і я пачаў забаўляцца з ім.

— Яша, дай лапу!—сказаў я.

Ён падаў мне сваю маленькую ручку. Я пачаў разглядаць на ёй чорныя кіпцікі, гладзіў яе. Якраз, як дзіцянё, думаў я. І захацелася мне паказлытаць гэтаму дзіцяняці далоню. Яму гэта, мабыць не спадабалася, бо ён рвануў лапу і — плясь мне па твары. Я не апамятаўся, як Яша надаваў мне аплявух і скокнуў пад стол. Сеў там і выскаляецца, Вось дык і дзіцянё!

Але мяне тут пагналі спаць.

Я хацеў прывязаць Яшу да свайго ложка, ды нашыя не дазволілі. Я лёг і прыслухваўся, што робіць Яша. Я думаў, што абавязкава трэба зрабіць яму ложак, каб ён мог спаць, як людзі, і накрываўся коўдраю; а пад галаву яму трэба падушачку.

З гэтымі думкамі я і заснуў.

Раніцай ускочыў я, нават не адзеўся і адразу да Яшы. Ажно—няма Яшы на вяроўцы. Вяроўка ёсьць, да яе камізэлька прывязана, а малпачкі няма. Глянуў я на камізэльку, аж усе тры гузікі расшпілены. Тут я і сьцяміў, што Яша сам расшпіліў камізэльку, пакінуў яе на вяроўцы, а сам уцёк. Я кінуўся шукаць яго. Абегаў усе пакоі, а Яшы няма. Я спужаўся. А што, калі сапраўды ўцёк? Дня не прабыў, і вось на табе! Я на шафы зазіраў, у печку глянуў — нідзе няма. Уцёк, думаю, на вуліцу. А на двары мароз; і шкода мне стала: зьмерзьне, бедны. Мне і самому стала холадна. Пабег адзявацца. І вось бачу: у маім ложку нешта капошыцца, аж коўдра варушыцца. Я нават уздрыгануўся, але разам і ўзрадаваўся. Гэта яму стала холадна на падлозе, ён і ўцёк да мяне на ложак і забраўся пад коўдру. А я спаў і нічога ня ведаў.

Спрасонку Яша не капрызіўся, не вырываўся, і я зноў нацягнуў на яго сінюю камізэльку.

Селі піць гарбату. Яша ўскочыў на стол, глянуў ва ўсе бакі, зараз-жа знайшоў цукарніцу, схапіў кавалак цукру і — на дзьверы. Скакаў ён так лёгка, што здавалася, быццам ён лятае, а ня скача.

На нагах у малпаў гэткія-ж пальцы, як на руках. Яша мог хапаць і нагамі. Ён гэта і рабіў. Сядзе, як дзіця, на рукі ў каго-небудзь, ручкі зложыць, а сам нагою дастае са стала абы што. Сьцягне ножык і давай з ім скакаць. Гэта ён хацеў, каб у яго адбіралі, а ён будзе ўцякаць. Гарбату Яшы давалі ў шклянцы. Ен абыймаў шклянку аберуч і гэтак піў, прыцмокваючы. Цукру я яму не шкадаваў.

Выходзячы ў школу, я прывязаў Яшу да дзьвярэй да клямкі. Пры гэтым я добра ўмацаваў вяроўку да по-

яса, каб ён не адарваўся. Калі-ж я вярнуўся дамоў, то яшчэ з кухні ўгледзеў, чым забаўляецца Яша. Ён вісеў на клямцы і гойдаўся на вяроўцы, як на калысцы. Адапхнецца ад вушака і едзе да сьцяны, піхне нагой у сьцяну — і едзе назад.

Сеў я рыхтаваць лекцыі, а Яшу пасадзіў на стол каля сябе. Яму вельмі падабалася грэцца каля лямпы. Ён драмаў, як стары дзядок на сонцы, калыхаўся і, прыплюшчыўшы вочы, пазіраў, як я мачаю пяром у чарніліцу. Настаўнік у нас быў строгі, і я чысьценька напісаў старонку. Прамакаць не хацелася, каб не папсаваць. Пакінуў — хай само, думаю, засохне, — а сам пайшоў у другі пакой. Варочаюся я і бачу: сядзіць мой Яша на сшытку, мачае сваім пальчыкам у чарніліцу, мармыча і старанна выводзіць нейкія каракулі на тым месцы, дзе і я пісаў.

— Ах ты, дрэнь!—крыкнуў я і ледзь

не заплакаў ад гора. Кінуўся я на Яшу, каб набіць, але куды там! Ён ужо на фіранках — і ўсе фіранкі запэцкаў чарнілам.

Цяпер і я стаў трохі цяміць, чаму Яўхіменкаў бацька сердаваў на яго.

Раз і мой бацька зазлаваўся на Яшу. Яша абрываў вазоны, што сталі ў нас на вокнах. Бацька пачаў сварыцца на яго, каб ён гэтага не рабіў. А Яша і ня думае: абарве лісток ды яшчэ і дражніць бацьку. Бацька злавіў і добра адлупцаваў яго. А потым, каб пакараць, прывязаў яго да лесьвіцы, па якой лазілі на вышкі, Гэта была вельмі вузкая лесьвіца. Тут-жа былі шырокія сходы, якія ішлі ўніз. Вось бацька выбраўся на службу: пачысьціўся, надзеў шапку і спускаецца па шырокіх сходах.

Пок!—Тынкоўка ўпала. Бацька прыпыніўся, скінуў з шапкі вапну. Глянуў угару — нікога няма. Толькі ступіў ён

крок — пок! — і зноў кавалак вапны проста на галаву. Што гэта? — думае сабе бацка.

Я стаяў тут недалёка і бачыў усё гэта. Я бачыў, як Яша накалупаў са сьцяны вапны, палажыў кавалачкі на край сходаў, а сам лёг, прытаіўшыся якраз над бацькаваю галавою. Як толькі ён выбраўся ісьці, Яша ціханька — шорк нагою вапну і так прыстроіў, што акурат бацьку на капялюш. Гэта ён мсьціўся бацьку за ўчарашнюю лупцоўку.

Надышла самая лютая зіма, завыў вецер у камінох, заваліла вокны сьнегам — і гэта нагнала на Яшу нейкую журбу. Мордачка ў яго стала сумная, ён усё вішчэў і ціснуўся да мяне. Шкода мне стала Яшу, і я стараўся як-небудзь пагрэць яго. Аднаго разу я папрабаваў засадзіць яго за пазуху, пад вопратку. Яша скора там прыстасаваўся: ён учапіўся ўсімі чатырма ла-

памі за кашулю і вісеў так. Ен так і спаў, не расчэмліваючы лап. Часамі я забываўся, што ў мяне Яша за пазухай, апіраўся аб стол.

Яшка пачынаў тады штурхаць лапкаю мне ў бок; гэта ён прасіў, каб я быў асьцярожней.

Аднаго разу ў нядзелю прышлі да нас у госьці дзяўчаты. Селі піць гарбату, Яша ціханька сядзеў у мяне за пазухай, яго ніхто ня бачыў. Нам далі па некалькі цукерак. Толькі я стаў разьвінаць першую, як раптам з-за пазухі, проста з майго жывата, высунулася махнатая лапка, схапіла цукерку і назад. Дзяўчаткі завішчэлі з перапуду. А я сабе жартую: гэта,—кажу,—у мяне трэцяя рука, якой я кладу цукеркі проста ў жывот. Але ўсе ведалі, што гэта малпачка. З-пад мае кашулі было чутно, як яна хрумстала цукерку. Можна было падумаць, што гэта я жую жыватом.

Яша доўга злаваўся на бацьку. Памірыўся-ж ён з ім праз цукеркі, Мой бацька пакінуў курыць і замест папярос насіў у скрыначцы маленькія цукеркі. Кожны раз пасьля абеду ён адчыняў тугое вечка скрыначкі пазногцем вялікага пальца і даставаў цукеркі. Яша адразу падбягаў да яго, садзіўся на калені, круціўся, працягваў лапку—прасіў цукерку. Вось адзін раз бацька даў Яшу зачыненую скрынку. Яша схапіў яе ў адну руку, а другою стаў адчыняць вечка, акурат так, як гэта рабіў і бацька. Але палец у яго быў маленькі, а вечка тугое: дык як ні стараўся—нічога ня выходзіла; Яша аж завыў ад злосьці. А цукеркі ў скрынцы спакусна бразгочуць. І вось Яшка падбягае да бацькі, хапае яго за вялікі палец і яго пазногцем, як долатам, прабуе адчыніць скрыначку. Бацьку стала вельмі сьмешна. Ён сам зьняў вечка і даў усю скрынку Яшу.

Яшка нагроб поўную жменю цукерак, запхаў імі поўны рот.

Быў у нас знаёмы доктар. Ён іншы раз прыходзіў да нас абедаць і быў надта гаваркі. Асабліва ў часе абеду, як разгаворыцца, дык проста суняцца ня можа—гаворыць і гаворыць.

Вось аднаго разу абедае ў нас гэты доктар. Торкнуў ён відэльцамі ў бульбіну, размахвае імі і ўсё гаворыць. А Яшку захацелася паласавацца бульбаю. Ён ціханька ўзьлез на сьпінку крэсла, сеў у доктара за плячыма і чакае, пакуль той пакіне махаць відэльцамі. А доктар гаворыць далей:

— Вы ведаеце, адзін раз, я... — і неяк здарылася, што ён затрымаў відэльцы каля вуха. Усяго на адзін момант спыніліся відэльцы, а Яша пасьпеў ціханька, як злодзей, зьняць бульбіну і так ціха сьпусьціцца з крэсла, што доктар нічога і не заўважыў.

— Падумайце толькі, што было...—

і тыц голымі відэльцамі сабе ў рот. Засаромяўся, — думаў, што сам скінуў бульбу. Азірнуўся ён і бачыць: Яша есьць яго бульбу, аж давіцца.

Доктар зарагатаў, але ўсё-ж такі зазлаваўся на Яшу.

Яшу зрабілі ў кошыку пасьцелю з падсьцілкай, коўдрай і падушкай. Але Яша не хацеў спаць, як людзі. Ён накруціць на сябе ўсё клубком і такім пудзілам сядзісь усю ноч. Яшу пашылі зялёную сукеначку з палярынкай, і ён стаў падобны на стрыжаную дзяўчынку з прытулку.

Чую я раз—нешта зазьвінела ў сумежным пакоі. Мяне гэта зацікавіла. Ціханька падкраўся я туды і вось бачу: стаіць на прываконьніку Яша ў сваім зялёным гарнітуры; у аднэй руцэ шкло ад лямпы, а ў другой — вожык, і гэтым вожыкам ён з вялікай старанасьцю чысьціць шкло. Ён так заха-

піўся працаю, што не пачуў нават, як увайшоў я.

Гэта ён бачыў, як чысьцяць шкло і надумаўся папрабаваць сам.

А калі пакінеш яго аднаго ўвечары каля лямпы, дык ён так падкруціць кнот, што аж агонь са шкла шыбае, сажа лятае па пакоі камякамі, а Яша сядзіць у кутку і бурчыць на лямпу.

Бяда з Яшам дый годзе, рады ня даць—не ўпільнаваць, хоць у клетку садзі. Я яго і лаяў і біў, але доўга злавацца на яго ня мог. Калі ён хацеў паддабрыцца, то рабіўся рахманым, ціхім, — узлазіў на плячо і пачынаў шукаць у галаве. Гэта рабіў ён тады, калі хацеў выпрасіць што-небудзь. Шукае ў галаве і кіпцікамі скрабе. Хоць нічога ня знойдзе, а хоча паказаць, быццам злавіў зьвера: возьме ды нешта выкусвае з пальчыкаў. Гэтая прывычка Яшы выклікала бяду.

Прышла неяк да нас у госьці зна-

ёмая кабета. Яна лічыла сябе вельмі прыгожай і надта старалася прыхарошвацца. Адзеньне на ёй шуршэла, усё шоўк. На галаве не зачоска, а цэлая альтанка з кос збудавана — уся ў пасмах ды ў завітушках. А на шыі на доўгім ланцужку люстэрка ў срэбраным абадку вісіць.

Яша асьцярожна падбег да гэтае кабеты.

— Ах, якая прыгожанькая малпачка! — сказала кабета і пачала забаўляць Яшу люстэркам. Яша схапіў люстэрка, пакруціў яго, ўскачыў на калені да кабеты і давай прабаваць зубамі люстэрка.

Кабета адабрала люстэрка і схавала ў руцэ. Але Яшку надта зацікавіла люстэрка, і ён захацеў дастаць яго. Кабета-ж, відаць, нацешылася Яшам і хацела сапхнуць яго з калень. А той і ня думаў злазіць: яму хацелася люстэрка.

Вось і надумаўся Яша паддабрыцца да кабеты; скочыў ён на плячо к ёй, ухапіўся заднімі лапкамі за карункі і дабраўся да зачоскі. Разьвярнуў усе яе завітушкі і стаў шукаць у галаве.

Кабета пачырванела.

— Пашоў вон! Пашоў — крычыць яна.

А Яша яшчэ больш стараецца — скрабе кіпцікамі, ляскае зубкамі.

Гэтая кабета заўсёды садзілася супроць люстэрка, каб любавацца сабой. І як згледзела яна, што ўскалмаціў яе Яшка, дык ледзь не заплакала.

Я хацеў дапамагчы ёй, кінуўся, каб адарваць Яшу. Але куды там! Яша моцна ўчапіўся за косы, і толькі дзіка паглядаў на мяне. Урэшце кабета схапіла Яшу за карак і рванула, але Яша пры гэтым зусім раскалмаціў ёй зачоску.

Глянула яна на сябе ў люстэрка — пудзіла ды годзе! Тут я замахнуўся і

сагнаў Яшу. А госьця наша схапілася рукамі за галаву ды за дзьверы.

— Гэта зьдзек, — кажа, — чысты зьдзек! — і нават не разьвіталася ні з кім.

Я і сам узлаваўся на Яшу. Ну, думаю, датрымаю да вясны, а там аддам каму-небудзь, калі Яўхіменка назад ня возьме. Дадзела мне цярпець праз яго папікі і дакоры.

Прышла вясна. Пацяплела. Яшка ажыў і пачаў яшчэ горш дурэць. Вельмі хацелася яму на волю, на двор. А двор у нас быў вялікі, з дзесяціну. Пасярод двара ляжала куча казённага вугалю, а навокал былі склады з таварамі. Двор пільнавалі вартаўнікі, каторыя трымалі цэлы статак сабак. Сабакі ўсе былі вялікія і злыя, але над усімі імі камандаваў рыжы Каштан. На каго Каштан забурчыць, на таго і ўсе сабакі кідаюцца, а каго Каштан прапусьціць, то і ўсе сабакі

прапускалі. Чужых сабак Каштан ня пускаў на двор. Як толькі згледзіць чужога, адразу рынецца на яго, стукне грудзінаю з разьбегу, дык той і ляжыць. Стане тады над ім Каштан і бурчыць, а няшчасная ахвяра і крануцца ня сьмее.

Я глянуў у вакно — няма сабак на дварэ. Вось і надумаўся я выпусьціць Яшку хоць раз пагуляць на двор, Я надзеў на яго зялёны гарнітур, каб не прастудзіўся, пасадзіў на плячо і накіраваўся да дзьвярэй. Толькі я прачыніў дзьвверы — а Яша скок на зямлю і паімчаўся па двары. У гэты-ж момант, — няведама адкуль яны і ўзяліся, — выляцеў увесь статак сабак, і Каштан наперадзе. І ўсе проста на Яшу. А той нават і не падумаў уцякаць. а стаў і стаіць сабе, як нажывая зялёненькая лялечка. Я не сумняваўся, што Яшу прыйшоў канец: вось-вось дабягуць сабакі і разарвуць яго.

Першы стаў падступаць да Яшы Каштан. Яша павярнуўся да яго, прысеў, прыцэліўся — відаць, нешта прыгатаваўся зрабіць. Каштан падыйшоў зусім блізка,—між ім і Яшам аставаўся ня больш, як адзін крок, — і стаў. Ён вышчарыўся, сярдзіта забурчэў, але кінуцца на Яшу не адважыўся. Рэшта сабак натапоршчыліся і чакалі, што будзе рабіць Каштан. Я хацеў кінуцца ратаваць Яшу. Але раптам Яша скокнуў і апынуўся на сьпіне Каштана. Ураз шэрсьць шматкамі паляцела з сабакі. Па мордзе, па вачох біў яго Яша, што аж лап ня згледзець. Заскавытаў Каштан ды такім праразьлівым голасам, што ўсе сабакі перапужаліся і кінуліся з двара. А Яша ня злазіць з Каштана; ён яшчэ мацней учапіўся заднімі лапамі за шэрсьць, а пярэднімі скубаў яе пасмамі, рваў за вушы, біў па мордзе. Каштан ня ведаў, што рабіць. Пачаў ён, як шалёны, насіцца

навокал кучы вугалю, дзіка скавычучы. Разы тры аб'ехаў гэтак Яша на Каштане, а потым спрытна скокнуў на кучу вугалю і спакойна залез аж на самы верх. Там была будка. Яша ўзьлез на яе, сеў і пачаў чухацца

Яго бясклопатны від у гэты час якбы казаў: — Вось я які: мне нішто ня страшна!

А Каштан шмыгнуў у вароты і нават не азірнуўся.

Пасьля гэтага я сьмела пускаў Яшу на двор; толькі ён з ганку — ўсе сабакі з двара. Яша нікога не баяўся.

На наш двор прыяжджалі фурманкі; іншы раз гэтулькі наб'ецца, што прайсьці нельга. А Яша і рад: ён лётае з воза на воз. Скочыць падчас і каню на сьпіну. Конь спужаецца, пачынае таптацца, храпе, трасе грываю, круціць хвастом, а Яша паволі гарцане на другога. Фурманы толькі сьмяюцца ды дзівяцца:

— От, чорт! Як скача. Бачылі Вы яго! Эх, эх!

А Яша шукае мяшкоў на возе. Калі знойдзе, прысядзе каля іх і глядзіць, ці няма дзірачкі, засадзіць лапку і мацае, што там. Як абмацае сланэчнік, абавязкава дастане і тут-жа, на возе, пачынае лузаць. Здаралася, што і арэхі пападуцца Яшу. Напхае тады поўны рот, набярэ ва ўсе чатыры рукі, аж ісьці ня можа.

Але знайшоўся вораг у Яшы. Ды яшчэ які! Па двары сланяўся валачашчы кот. Ён жыў у канцылярыі, дзе яго кармілі рознымі аб'едкамі. На гэтых харчох ён разьеўся, стаў вялікі з сабаку. А сярдзіты-ж быў і дзікі — на рукі ніхто ня мог узяць.

Раз пад вечар разгуляўся мой Яша на двары, што і ў хату ня ўклікаць. І бачу: вышаў на двор кот, скочыў на лаўку, што была пад дзеравам, і расьсеўся на ёй. Яшка, як згледзеў ката,

проста да яго рынуўся. Кот падабраў лапы, згорбіў сьпіну — прыгатаваўся бараніцца. Яшка ўсё бліжэй і бліжэй. Кот вытарашчыў вочы і пачаў падавацца назад. Яшка на лаўку. Кот задам, задам і перайшоў на другі канец лаўкі на дзерава. А ў мяне аж сэрца млела. Кот сьціснуўся ў камячок і як скочыць, але не на Яшу, а на дзерава, бо ён звыкся там ратавацца ад сабак. Падлез трохі кот угару, учапіўся кіпцямі за кару і паглядае, што будзе рабіць Яша. А той таксама на дзерава давай па ім брацца ўгару, ня горш за ката. Кот вышэй, вышэй, — залез на галіну, сеў і глядзіць, што далей будзе. І Яша сьмела папоўз па тэй-жа галіне ды так спрытна, быццам цэлы век катоў лавіў. Кот ужо на самым краі тоненькай галінкі, ледзь трымаецца, гойдаецца. І Яша сюды дабіраецца. Бяда кату: далей ісьці некуды. І вось ён адважыўся і скок на зямлю.

Мяўкнуў ён, падняўся — ды толькі яго і бачылі. Яша-ж з дзерава пішчыць яму наўздагон.

— Йаў, йаў, — ды такім страшэнным зьвярыным голасам, якога я ад яго яшчэ ніколі ня чуў.

Цяпер ужо Яша стаў поўным панам на дварэ Дома есьці нічога ня браў, толькі гарбату піў з цукрам, а то ўсё жывіўся на дварэ. А раз так наеўся разынак, што ледзь-ледзь вытрываў. Ён стагнаў, на вачох сьлёзы, і жаласна пагдядаў на ўсіх. Хатнія шкадавалі яго, кожны песьціў, як мог.

А Яша ўгледзіў, што з ім цацкаюцца, і давай капрызіцца, раськіне рукі, закіне галаву і вые на розныя галасы, быццам вельмі хворы. Яго закуталі і далі рыцыны.

Рыцына яму вельмі спадабалася, і ён пачаў крычаць, каб яшчэ далі. Але яго спавілі і тры дні не выпускалі на двор.

Ён скора паправіўся, і ўтрымаць тады ў хаце яго было немагчыма,

Ды я ўжо і не баяўся выпускаць яго на двор, бо ведаў, што ніхто яго ня зловіць і не зачэпіць. І Яша цэлыя дні скакаў на волі. У хаце стала цішэй, і на мяне ніхто ня крычаў за Яшу.

А як надышла восень — усе хатнія ў адзін голас:

— Куды хочаш прыбяры ты сваю малпу, або ў клетку засадзі. А каб па хаце ён, гэты чорт, не насіўся.

І хоць вельмі шкадаваў я Яшу, а як пачаліся заняткі ў школе, я пачаў шукаць сярод таварышоў, каму-б аддаць яго.

Знайшоў я, ўрэшце, аднаго ахвотніка, які згадзіўся забраць майго Яшу.

Ня ведаю, ці доўга трымаў ён яго, і каму аддаў пасьля.

Ведаю толькі, што ўсе нашы сумавалі па Яшу, хоць казаць аб гэтым не хацелі.

